Цана 15 гр.

„Białaruski Front" 1 czerwca 1939 r.

Przesyłka opłacona ryczałtem

# БЕЛАРУСКІ ФРОНТ

ВЫХОДЗІЦЬ 1-га і 15-га КОЖНАГА МЕСЯЦА

РЭДАКЦЫЯ і АДМІНІСТРАЦЫЯ:
Вільня, Вострабрамская вул. 1 — 20 (Wilno, ul. Ostrobramska 1 — 20).
Адчынена ад 9 да 19 г.

**Выпіска:** на год — 2 зал., на паўг. — 1 зал., на 3 м-цы — 50 гр.
Нумар конта паштовага разрахунку: 100

НЕЗАЛЕЖНЫ НАРОДНА - РАДЫКАЛЬНЫ ЧАСАПІС

№ 11 (45) Вільня, 1 чэрвеня 1939 г. Год IV

## Аб „славянскай ідэі"

Ген. Жэлігоўскі яшчэ раз зьмясьціў у „Słowie"(25.V.) артыкул аб славянскай ідэі і славянскай салідарнасьці. Артыкул мае даволі трагічны загаловак: „Ave Caesar, morituri te salutant" *).

Памінаючы гэты трагічны загаловак, а такжа факт зьмяшчэньня славянафільскага артыкулу ў імпэрыялістычным „Słowie", якое няраз выражала пагляды аб асыміляцыі беларусаў на карысьць польскага народу, артыкул варт увагі.

У артыкуле наўперад адзначаецца, што жывём у вельмі цікавым пэрыядзе гісторыі чалавецтва. Адбываюцца ня толькі рэвізіі граніц, ня толькі зьмены палітычных дактрынаў, але адбываецца новы падзел сьвету. Паўстаюць новыя палітычныя думкі, новыя ідэолёгіі, ужо ня толькі народаў, але пакаленьняў і расаў. Далей, кінуўшы вокам на мінуўшчыну славян, ген. Жэл. цьвярдзіць, што Польшч можа адыграць вялікую ролю ў славянстве, толькі, нажаль, у Польшчы вельмі мала ведаюць аб славянскай ідэі. Польскае грамадзянства аб гэтай ідэі ня мае паняцьця, аб славянах можа чула толькі, будучы ў школе, а потым ніколі. „Ведаем, кажа ген. Ж., што Польшч была шляхоцкая, што ёсьць каталіцкая, але ня ведаем, што яна славянская". Польская інтэлігенцыя часта ўстыдаецца прызнацца да сваёй славянскасьці. Цяпер славянскія глядыятары, кажа ген. Жэл., выступаюць адзін проціў другога, ня гледзячы на германскую небясьпеку, але гэта давядзе іх да сьмерці. Даўнейшая Польшч загубіла славянскую ідэю і была падзелена, цяперашняя высока ўзьняла сьцяг з Белым Арлом і заклікае ўсіх славян, якія хочуць быць вольнымі, змагацца „за нашу і вашу волю".

Гэтакі ёсьць зьмест артыкулу ген. Жэлігоўскага. Трэба прызнаць, што ў артыкуле ёсьць многа романтычных думак, але з другога боку трэба сказаць праўду, што романтычнымі думкамі славянін сыт ня будзе, трэба чагось болей рэальнага. І вось гэтага *чагось* болей рэальнага і практычнага ў артыкуле няма. Увесь артыкул мае характар тэорэтычны, без практычнага зьместу. А ў сяньняшнія часы ня толькі салаўя, але і славяніна песьнямі ня кормяць. Дык, на наш пагляд, найбольшай заганай гэнага артыкулу ёсьць тое, што ў ім *няма канкрэтных спосабаў рэалізацыі славянскай ідэі.*

Аб славянскай ідэі мы ў „Б. Фронце" пісалі ўжо няраз і адмысьліся да яе нэгатыўна з наступных прычын:

1) Непрызнаваньне славянскай салідарнасьці вялікімі і сільнымі славянскімі народамі. Ані расейскі народ, ані польскі, ані чэскі, ані які іншы нё ўявілі ў практычнае жыцьцё славянскай салідарнасьці, хоць мелі да гэтага і час і аказію. Ген. Жэл. сам прызнае, што польскае грамадзянства нават не разумее славянскай ідэі. Тое самае мы бачым у іншых народаў.

2) Апроч незразуменьня славянскай ідэі спасьцерагаецца ў некаторых народаў зусім адваротнае зьявішча, іменна, душэньне братніх слявянскіх народаў. Усё гэта перашкаджае пашырэньню і развіцьцю славянскай ідэі.

У вадным з папярэдніх нумароў „Б. Фр." (7.IV.39) мы пісалі, што „пасьля перагляду ўсіх славянскіх народаў мусім сьцьвердзіць, што славянскай салідарнасьці няма. Расеец душыць беларуса і ўкраінца, чэх — славака, сэрб — баўгара і харвата, душаць і іншыя, словам, аж зямля славянская стогне ад „братняй салідарнасьці". Дзеля гэтых прычын мы заўсёды адносіліся да славянскай салідарнасьці вельмі крытычна.

Прыглядаючыся да жарала, адкуль выплывае славянская ідэя, трэба сьцьвердзіць, што яна паўстае пасярод слав. народаў сільных, зарганізаваных, маючых свае дзяржавы. Гэтыя народы хочуць выкарыстаць славянскую ідэю дзеля правядзеньня сваіх мэтаў, іменна, *у імя славянскай салідарнасьці хочуць пашырыць свае ўплывы на другія слав. народы.*

Характэрна такжа і тое, што гутаркі аб славянскай ідэі падымаюцца толькі ў часе небясьпекі, а ў часе супакою яны сьціхаюць зусім. Значыць, славянскай ідэі дзяржацца толькі сільныя і дзяржаўныя славянскія народы, а слабыя і недзяржаўныя да яе адносяцца крытычна, якбы заўляючы: „дайце і нам усё тое, што вы маеце, а тады будзем гаварыць аб славянскай салідарнасьці"! Пасярод недзяржаўных народаў трымаюцца славянскай ідэі толькі адзінкі, якія або не разумеюць сучаснага палажэньня, або зьяўляюцца рамантыкамі, якія вераць у стройныя клічы. Дык трэба сказаць, што *славянафільства ў недзяржаўных народаў сьведчыць аб недаразьвіцьці ў іх нацыянальнай і дзяржаўнай сьведамасьці.* Палякі даўней, калі былі паняволены расейскім народам, адкідалі ўсякае славянафільства, якое вясьцілі расейскія ідэолёгі і — трэба прызнаць, што становішча польскага народу было правільным.

Значыць, славянскай салідарнасьці ў практычным жыцьці няма ў ніводнага славянскага народу. У цяперашніх варунках яе, здаецца, і быць ня можа. Гэта ідэя добрая толькі дзеля забаўкі, добрая для наіўных палітыкаў, добрая ўрэшце для палітычных камбінатараў, якія пад прыкрыўкай славянскай ідэі хочуць правесьці свае палітычныя камбінацыі. Але для рэальных палітыкаў яна ня мае ніякай вартасьці. Да гэтага яшчэ трэба дадаць і той факт, што беларускі народ найболей пацярпеў ад славянскіх народаў і дзеля гэтага няма ў ім вялікага славянафільства. Славянская салідарнасьць беларусаў выяўлялася толькі ў форме служэньня іншым славянам. Такой салідарнасьці беларускі народ прыняць ня можа.

——

*) Гэтак глядыятары віталі рымскага цэзара, калі падчас ігрышч ішлі ў бой, каб змагацца паміж сабою дзеля пацехі глядзельнікаў. У перакладзе на бел. мову гэтыя словы значаць: „Будзь прывітаны, цэзар, цябе здароўкаюць тыя, што маюць памерці".

## Перад вялікімі вырашэньнямі.

Весткі аб хуткім далучэньні Саветаў да „дэмакратычнага" блёку ставяць сьвет перад вялікімі вырашэньнямі. Цяпер сытуацыя робіцца яснай. Проціў восі Бэрлін — Рым творыцца **вялікая коаліцыя,** зложаная з Англіі, Францыі, Саветаў, Польшчы і іншых дзяржаў, якая хоча ўзяць Нямеччыну і Італію з двух бакоў, так як былі ўзяты ў часе Вялікай вайны Нямеччына і Аўстрыя.

Пачынальнікам і павадыром цяперашняй коаліцыі ёсьць Англія. Яна пасьля заняцьця Чэхіі Нямеччынай (сакавік сёлета) зразумела, што Нямеччына мае далейшыя і глыбейшыя мэты, чым аб'еднаньне ўсіх немцаў у ваднэй дзяржаве, іменна, здабыцьцё гэгэмоніі (павадырства) ў Эўропе. Адвечнае-ж правіла Англіі такое, каб перамагаць на эўрапэйскім кантынэнце кожную дзяржаву, якая імкнецца да гэгэмоніі ў Эўропе. А каб перамагчы такую дзяржаву, Англія тасуе старую і выпрабаваную сыстэму, іменна, творыць коаліцыю з усіх загрожаных гэгэмонам дзяржаў. Гэта ей удавалася яшчэ з тэй прычыны, што яна ў Эўропе не нарушала інтарэсаў тых дзяржаў, з якімі ўваходзіла ў саюз. Вось-жа цяпер маем падобнае зьявішча. Проціў Нямеччыны, якая імкнецца да гэгэмоніі ў Эўропе, Англія зарганізавала вялізарную коаліцыю, зложаную з усіх дзяржаў, якім грозіць Нямеччына. Гэтая коаліцыя прыпамінае падобную коаліцыю, створаную ў пачатку XIX ст. проціў Напалеона, толькі тады Англія арганізавала коаліцыю проціў Францыі разам з Нямеччынай, а цяпер робіць гэтае самае проціў Нямеччыны разам з Францыяй...

Арганізацыю сяньняшняй коаліцыі Англія пачала ад Польшчы, гварантуючы ёй граніцы і здабываючы пэўнага саюзьніка на ўсход ад Нямеччыны. Потым прыцягнула на свой бок Турцыю, якая адчыніла ёй Дарданелы і Босфар і заключыла з ёю вайсковы саюз. Трэба прызнаць, што Турцыя з пункту гледжаньня стратэгічнага — гэта для Англіі вялікая здабыча: яна мае бараніць англійскіх інтарэсаў ня толькі ў Іраку і Палестыне, але на прасторы ўсяе бліжэйшай Азіі, да Суэскага каналу ўключна! Апроч гэтага Турцыя ў саюзе з Румыніяй і Грэцыяй мае параліжаваць дзейнасьць Нямеччыны і Італіі на Балканах. Урэшце, пасьля доўгіх перагавораў, Англія здабывае для сваёй коаліцыі Саветы. Гэта ёсьць, здаецца, найбольшая здабыча Англіі. Якую помач дадуць Саветы Англіі і саюзным з ёю дзяржавам, пакажа будучыня. Тымчасам Англія гварантуе Саветам ненарушальнасьць іхнай тэрыторыі, як на захадзе (рыская мяжа) так і на ўсходзе. Апроч гэтых дзяржаў Англія мае яшчэ ў рэзэрве Злуч. Штаты Паўночнай Амэрыкі і, магчыма, Аргентыну. Ці гэтыя дзяржавы выступяць дзейна проціў Нямеччыны, пакуль-што няведама.

Гэтакія ёсьць сілы англійскай коаліцыі. А якія-ж па старане Нямеччыны?

Наўперад Італія, якая заключыла з Нямеччынай фармальны вайсковы саюз, паводле якога забавязалася быць разам з ёю як у часе міру, так і ў часе вайны.

Да гэтых дзьвух дзяржаў, магчыма далучыцца Японія, перад якой няма цяпер іншага выхаду. Апроч гэтых трох дзяржаў мы болей пэўных саюзьнікаў ня бачым. Гішпанія, акрываўленая ў блізу трохгадовай братняй вайне, хістаецца; Баўгарыя, акружаная з усіх бакоў варожымі дзяржавамі, у вайну лёгкадумна ня пойдзе, астаецца Вугрыя, якая ў крытычную хвіліну можа адказацца ад паходу разам з Нямеччынай. Трэба прызнаць, што сілы „восі“, разам з Японіяй, хоць і вялікія, але многа меншыя за сілы коаліцыі, асабліва ў чалавечым матар'яле і сыравіне, а гэта якраз патрэбна дзеля вядзеньня даўгой вайны.

Якія-ж выплываюць з гэтага палажэньня магчымасьці?

**Першая магчымасьць** — адклад вайны „дынамічным“ блёкам на пазьнейшы час. Пры сяньняшніх суадносінах сіл вось Бэрлін—Рым, нават успамаганая Японіяй, на вайну хіба-ж не адважыцца. Магчыма, будзе чакаць лепшых часаў, пакуль у коаліцыі нешта не папсуецца, або пакуль не ўзмацуецца Японія праз далучэньне да сваей палітыкі Кітаю. Калі ані адна, ані другая старана на вайну не адважыцца, будзем перажываць час „уваружанага супакою“, так як і цяпер.

**Другая магчымасьць** — адзін з блёкаў зарызыкуе на вайну. Хоць мы ня верым, каб вайну пачаў „дэмакратычны“ блёк, (які цяпер завецца „мірным“ блёкам), то ўсёж-такі, калі надарыцца адпаведная часіна, магчымасьць пачацьця вайны гэтым блёкам ня выключана. Урэшце вайна часам „сама пачынаецца“. Трэба сказаць праўду, што ў прыпадку вайны будзем сьведкамі вялікага праліцьця крыві і страшэннага зьніштажэньня.

Пры перамозе коаліцыі, астаецца ў нас status quo, гэта значыць, той парадак, які цяпер існуе. Паводле дагавораў граніцы на ўсходзе Эўропы ня зьменяцца. Могуць зьмяніцца толькі ў цэнтральнай Эўропе, магчыма, паўстала-б ізноў незалежная Чэхія, ці нават Чэхаславаччына, зьнікла-б з палітычнай карты Усх. Прусія, падзеленая паміж Польшчай і Літвою, магчыма, што і Саветы атрымалі-б нейкую нагароду на ўсходзе ці ў іншым месцы — але наагул беручы, вялікіх зьмен ня было-б.

Калі-б перамог „дынамічны“ блёк, зьмены былі-б вялізарныя, ня толькі ў Эўропе, але і на ўсім сьвеце. Найболей зьменаў было-б у раёне Міжземнага мора, у ўсходняй Эўропе і на Далёкім Усходзе. Італія, Нямеччына і Японія падзялілі-б сьвет паводле сваіх плянаў.

Гэтакія ёсьць магчымасьці будучай вайны. Пасьля далучэньня да англійскай коаліцыі Саветаў, першая магчымасьць, г. зн. уваружаны мір, здаецца, найболей праўдападобна. Але ня выключана і вайна. Толькі яшчэ раз адзначым, што пры сяньняшняй тэхніцы і колькасьці чалавечага матар'ялу, яна была-б найстрашнейшаю ў гісторыі чалавецтва. Рэзультаты гэтакай вайны маглі-б быць аграмадны. Трэба яшчэ ведаць, што кожная вайна нясе з сабою розныя неспадзеўкі, пасьля каторых могуць наступіць такія перамены ў палітычным і грамадзкім жыцьці, якіх цяпер трудна прадбачыць.

Мусіць дзеля гэтага так доўга адбываецца „дыпляматычная вайна“ паміж двама блёкамі. Весткі, якія надыходзяць з Лёндану, цьвярдзяць, што Чэмбэрлен пасьля падпісаньня пакту з Саветамі мае яшчэ раз выступіць перад Нямеччынай з прапазыцыяй гутарак... Ня трэба хіба-ж казаць, што гэтыя гутаркі адбываліся́б „з рэвольвэрамі ў руках“, бо кожны гатовы да вайны, а такія гутаркі ніколі да міру не даводзяць. Швэдзкая і амэрыканская прэса пішуць, што вайна пачнецца пасьля жніва, **у верасьні месяцы.** Пачакаем верасьня!

**А. В.**

## ЗАЦЕМКІ З ЖЫЦЬЦЯ.

**Нямецкія пляны на Ўсходзе.** Польская і нямецкая прэса адкрывае значэньне слоў у прамове мін. Бэка, у каторай сказана, што Нямеччына ў сваім часе рабіла розныя прапазыцыі Польшчы. Якія гэта былі прапазыцыі, мін. Бэк не сказаў, пакідаючы за сабою права вярнуцца да гэтай мэты, затое аб гэтых прапазыцыях многа ў апошнім часе пісала прэса. І так віл. „Слово“ (24.V) у артыкуле „Як палк. Бэк прыгатаўляў прамову“ піша, што на нарадзе, якая адбылася перад прамовай з удзелам марш. Рыдз-Сьміглага было пастаўлена жаданьне, каб у прамове аткрыць нямецкія інтрыгі і пляны зьвернутыя проціў Расеі.

„Год таму, піша „Слово“, у часе паляваньня ў Белавежы марш. Гэрінг запрапанаваў мін. Бэку супрацоўніцтва, маючае на мэце ўскрашэньне Украіны і як аўтаномнай дзяржавы Беларусі. Тры месяцы таму фон Рыбэнтроп вярнуўся да гэтай самай справы, ахвяроўвываючы помач ахвотніцкага корпусу б. царскай арміі. Але мін. Бэк ведаў, што Райх заўсёды гатоў каб разлажыць або праглынуць як Польшч, так і рэшту. Астаўся недаверлівы. „Няхай пан закране падвойную нямецкую ігру — станоўча дараджаў марш. Сьміглы-Рыдз. — „І дапоўню адпаведнымі ходамі маіх амбасадараў у Парыжы і Лёндане“ — адказаў паволі мін. Бэк“...

Пасьля гэтага варш. прэса пісала, што Нямеччынай былі падсоўваны Польшчы праекты агульнага паходу на ўсходнюю і паўдзённую Эўропу і супольны падзел уплываў на землях Украіны, Беларусі, Каўказу і нават у Прыбалтыцы. Польшч рашуча адкінула гэтыя думкі. На ўсё гэтае нямецкая прэса адказала, што Польшч знаходзіцца ў саюзе з Саветамі, дык пра супольны паход з ею проціў Саветаў трудна былоб гаварыць.

Французская газэта „Paris Soir“ у карэспандэнцыі з Варшавы такжа прынясла вестку, што марш. Гэрынг у лютым 1938 г., будучы на паляваньні ў Белавежы прапанаваў мін. Бэку падзяліцца расейскай Украінай і савецкай беларускай рэспублікай. Мін. Бэк выслухаў гэтых слоў моўчкі і пачаў гаварыць аб нечым іншым. Далей „Paris Soir“ піша, што Гэрынг, робячы тыя прапазыцыі мін. Бэку, быў у паразумленьні з арганізацыямі беларусаў, якіх цэнтралі месьцяцца ў Бэрліне. Быў такжа апрацаваны плян нападу, у якім беларусы магліб адыграць такую самую ролю, як судэцкія партызаны ў Чэхаславаччыне. (Гл. „Новя Зоря“ 14.V.39).

Што маюць азначаць гэтыя весткі? Нам здаецца, ва ўсіх гэтых чутках і пісанінах ёсьць многа фантазіі. „Paris Soir“ відаць папутаў беларусаў з расейскімі „белагвардзейцамі“, якіх цэнтралі сапраўды месьцяцца ў значнай колькасьці ў Бэрліне. Толькі што маглі-б рабіць расейскія „белагвардзейцы“ ў Беларусі? Арганізаваць „бѣлорусскую“ дзяржаву? Закладаць пляцдарм дзеля паходу на Маскву? А можа тут асесьці, як у сваім „отечествѣ“? Калі так, дык беларускі народ з такімі „белоруссамі“ расправіцца скора!

**Новая палітыка Камінтэрну.** Варшаўская прэса прыносіць цікавыя весткі аб новых інструкцыях, дадзеных Камінтэрнам для сваіх прадстаўнікоў у Польшчы. Прэса між іншым піша, што ў сакавіку сёлета на паседжаньні Выканаўчага Камітэту Камінтэрну ў Маскве сьцьверджана, што КПП (Кам. Партыя Польшчы) закончыла ўжо нутраную рэарганізацыю і ёсьць гатовай да далейшых рэвалюцыйных дзеяньняў... Апошнія інструкцыі з чырвонай Масквы вельмі энэргічна прыпамінаюць камуністам у Польшчы, што яны ёсьць жаўнерамі Камінтэрну і што павінны быць гатовымі да выкананьня ўсіх загадаў Масквы. Далей кажацца ў інструкцыі, што камуністы павінны пашыраць у масах гарадзкога і вясковага насельніцтва Польшчы прапананьне, што Саветы ёсьць натуральным саюзьнікам у абароне незалежнасьці Польшчы перад гітлероўскай Нямеччынай...

З другога боку віл. „Głos Nar.“ (26.V) піша, што ў часе гутаркі мін. Бэка з заступнікам сав. камісара загр. спраў Патёмкіна, які пару тыдняў таму быў у Варшаве, Польшч атрымала ад Саветаў рад канкрэтных абяцаньняў аб спыненьні прапаганды Камінтэрну ў Польшчы...

Ад сябе адзначым, што цікава было-б ведаць, якія весткі ёсьць праўдзівымі, ці тыя, якія гавораць аб рэарганізацыі кам. партыі Польшчы і яе гатоўнасьці да рэвалюцыйнай акцыі, ці тыя, якія кажуць аб спыненьні камуністычнай прапаганды? Нам здаецца, што камуністычная партыя Польшчы (ў якую ўваходзіць і кам. партыя Заходняй Беларусі) не на тое рэарганізавалася, каб быць безработнай. Сапраўдныя інструкцыі Камінтэрну будуць заўсёды ісьці да таго, каб усе суседнія дзяржавы сталіся савецкімі сацыялістычнымі рэспублікамі.

**Рэзультаты пазыкі.** Праведзеная нядаўна ў Польшчы пазыка на мэты абароны дзяржавы дала болей як 400 мільёнаў злотаў. Паводле апошніх падрахаваньняў, як падае „Кур. Віл.“ (26.V), землі „паўночна-усходнія“, адносна да свайго даходу, ідуць наперадзе ўсіх земляў Польшчы ў ахвярнасьці на мэты абароны... І так, Віленскае ваяводзтва адносна да ўсяе Польшчы падпісалася на 2,03 працэнтаў пазыкі, тады калі грамадзкі даход Віл. ваяводзтва даходзіць толькі да 1,8 прац. даходу ўсяе Польшчы. Падобныя лічбы прадстаўляюцца і для іншых ваяводзтваў, напр. Наваградзкае ваяв. падпісалася на 1,05 прац. пазыкі пры даходзе 0,6 прац., Палескае ваяв. падпісалася на 1,05 прац. пры даходзе 0,6 прац. усяе Польшчы. Апроч гэтага „Кур. Віл.“ адзначае, што калі ідзе аб адносіны да падпіскі на Нацыянальную пазыку, якая адбылася некулькі гадоў таму, дык уся Польшч падпісалася на апошнюю пазыку ў вышыні 118 працэнтаў Нацыянальнай пазыкі, тады калі Віленскае ваяводзтва падпісалася ў вышыні 175 прац., Наваградзкае — 197 прац., Палескае — 160 працэнтаў.

Чытаючы гэтыя весткі, мы ніяк ня можам зразумець, якім гэта спосабам наш **бедны** край мог даць працэнтова болей на мэты абароны, чым **багаты** ў цэнтральнай Польшчы? У сваім часе ў газэтах былі публікацыі аб утварэньні кантрольнай камісіі дзеля праверкі, ці ўсе грамадзяне споўнілі свой доўг. Цяпер гэная камісія можа знайсьці шырокае поле для свайго дзеяньня ў багатых правінцыях Польшчы. Бо звычайная справядлівасьць вымагае, каб багатыя правінцыі, якія маюць болей грамадзкага даходу, болей давалі на дзяржаўныя мэты.

**Новы віленскі ваявода.** На месца ваяводы Бацянскага прыехаў у Вільню ваявода А. Марушэўскі, які быў да гэтага часу ваяво-

# Сьведамы актыў на вёсцы.

Праца над нацыянальным асьведамленьнем нашай вёскі і самаасьвета вымагаюць каапэрацыі (судзейнічаньня) ўсіх інтэлігенцкіх сілаў на вёсцы. Бяз гэтакай каапэрацыі праца ня можа даць патрэбных рэзультатаў, бо будзе весьціся бяз пляну. У найлепшым прыпадку, гэтая праца можа ўдацца там, дзе будуць найбольш дзейныя адзінкі. Там-жа, дзе вясковая інтэлігенцыя будзе стаяць асьведамленьне масы і яе асьвета не павышацца. Каб асьведамляючая і асьветная акцыя прынясла сапраўды карысьці ў агульна беларускім маштабе, трэба каб усе сьведамыя сілы вёскі злучылі свае натугі і падпарадкавалі іх настаўленай мэце.

Сьведамасьць мэты і зразуменьне неабходнасьці яе дасягненьня — вялікая рэч. Каб агул нашай вясковай інтэлігенцыі добра разумеў, што без нацыянальнага асьведамленьня і асьветы немагчыма ніякае палепшаньне долі народу, што нацыянальная сьведамасьць і асьвета зьяўляюцца адзінымі фундамэнтамі ўсякай беларускай працы, — прыкладам, культурнай, гаспадарчай — дык бязумоўна з боку вясковай інтэлігенцыі выявілясяб большая актыўнасьць. Нажаль, трэба сьцьвердзіць, што шмат нашай інтэлігенцыі не разумее гэтай праўды і думае, што быццам народ можа дайсьці да палепшаньня свайго існаваньня іншымі шляхамі, слухаючы напрыклад, прыгожых байкаў розных „дабрадзеяў“. Некаторыя, праўда, пасьля шматгадовай „практыкі“ ў гэтых дабрадзеяў пераканаліся, што, ідучы за імі былі на блуднай дарозе, пакінулі яе і ўзыйшлі на свой беларускі шлях, але ці-ж гэта не трагэдыя, што каб зразумець гэтую простую справу, патрэбна было аж столькі марнаваньня сваіх сілаў і цяжкога досьледу.

Дык найважнейшым варункам паўстаньня сьведамага беларускага актыву на вёсцы ёсьць тое, каб вясковая інтэлігенцыя ўмела ня толькі гаварыць аб патрэбе нацыянальнага асьведамленьня і асьветы, але і разумела ўсю **глыбіню** гэтых паняцьцяў. Толькі пры гэткім разуменьні магчымай будзе ахвярная праца для Ідэі.

З гэтага выплывае выснаў, што вясковая інтэлігенцыя толькі тады будзе актыўнай, калі будзе разумець **сэнс** сваей працы. Гэты сэнс сам сабой не даецца і яго трэба здабыць. Тут мы даходзім да патрэбы самаадукацыі для нашай вясковай інтэлігенцыі, наўперад у галіне беларусаведы, бо толькі гэтым шляхам можна будзе дайсьці да прақананьня аб неабходнасьці нацыянальнага асьведамленьня і асьветы для масы і што толькі на гэтых дзейніках можна будаваць лепшую будучыню народу. У народаў, стаячых на вышэйшых ступенях нацыянальнага асьведамленьня за нас, ёсьць спэцыяльная літаратура, якая ў лёгкай да зразуменьня форме падае вёсцы веду аб сваім народзе, яго патрэбах і шляхох, - якімі трэба ісьці да іх здаваленьня. Пры існаваньні гэткай літаратуры квэстыя самаадукацыі вясковай інтэлігенцыі значна аблягчаецца. У нас, нажаль, гэткай літаратуры дагэтуль няма, што ёсьць вялікай замінай у тварэньні вясковага актыву. Трэба, каб горад парупіўся аб наладжаньні гэткага выдавецтва і каб урэшце зьявілася ў нас папулярная брашура аб беларускай мове, літаратуры, гісторыі, эканоміі і г. д. Пакуль гэтага ня будзе, трудна гаварыць аб магчымасьці стварэньня вялікага вясковага актыву толькі шляхам пашыраньня існуючай беларускай прэсы ў дадатку даволі беднай.

Праца над сабой вырабіць з інтэлігента адданага барацьбіта, а ў рэзультаце паўстане вясковы інтэлігенцкі актыў, які возьме ў свае рукі асьведамленьне народу і яго асьвету. Над павялічэньнем гэтага актыву і яго дасканаленьнем патрэбна бязупынная праца.

Але ўжо цяпер на вёсцы мы маем шмат беларускай сьведамай інтэлігенцыі, якая павінна ўзяцца

# На беларускім ґрунце

### ПАТРЭБА КАНСАЛІДАЦЫІ.

Вельмі часта на беларускім ґрунце, асабліва ў сяньняшнія трывожныя часы, можна пачуць гутаркі аб патрэбе кансалідацыі бел. грамадзянства, Кажуць, што надыходзяць вялікія падзеі, у каторых беларускі народ павінен быць скансалідаваны і салідарны ва ўсіх прыгодах жыцьця,

Думкі бязумоўна добрыя і іх трэба праводзіць у жыцьцё. Аднак мусім адзначыць, што **для сапраўднай кансалідацыі патрэбны дзьве рэчы:** 1) адна супольная ідэя, якая-б аб'еднывала ўсіх беларусаў і 2) незалежнасьць ад чужых сілаў.

Першай рэчай, якая патрэбна для сапраўднай кансалідацыі, ёсьць адна, аб'едныаючая **ідэя** або **мэта,** да якой усе павінны ісьці. Мы ўважаем, што без такой адной мэты немагчымая ніякая кансалідацыя, бо толькі мэханічнае аб'еднаньне ці злучэньне павадыроў або групаў не дае яшчэ сапраўднай кансалідацыі. Мала крыкнуць або кінуць кліч: „Злучаймася, пойдзем разам“! — трэба яшчэ сказаць, **чаму** маем злучацца і **куды** маем ісьці?

І вось тут спатыкаем найбольшыя труднасьці, бо адны цягнуць улева, другія ўправа, адны дзяржацца тэй палітычнай ар'ентацыі, другія іншай. Найгорш тое, што некаторыя беларусы дзяржацца сваей палітычнай ар'ентацыі, як **догмы**, каторай ня можна зьмяніць у ніякім прыпадку, бо яна адзіная, найлепшая і г. д. Такія дзяржацца сваей палітычнай ар'ентацыі нават тады, калі гэтая ар'ентацыя нават шкодзіць беларускаму народу. Возьмем прыклад. На нашых вачох адбываліся такія выпадкі, што беларусы, скажам, з камуністычным прахананьнем ар'ентаваліся на Маскву нават тады, калі гэтая Масква ліквідавала ўсіх беларускіх культурных працаўнікоў у Сав. Беларусі, тады калі саджала ў турмы, высылала на Салоўкі або проста на той сьвет б. грамадаўцаў або змаганцаў, якія працавалі тут для трэцяга інтэрнацыяналу сумленна, як гэта кажуць, „не за страх, а за совесть“! Усе-ж мы тут іх добра знані і ведалі, для каго яны працуюць. Пасьля такіх фактаў, здавалася, кожны беларус, які дзяржаўся камуністычнай ар'ентацыі, павінен быў-бы сказаць: „калі там прасьледуюць беларусаў, дык я, як беларус, туды ар'ентавацца ня буду“! Аднак не, знайшліся такія, якія яшчэ выносілі рэзалюцыі, што „так ім і трэба“. Гэтым яны выносілі прысуд і на самых сябе. Яны, відаць, паверылі тым інфармацыям, якія пашырала кам. агітацыя аб „здрадніцтве“, ня ведаючы ўсіх спосабаў, якіх ужывае ў такіх выпадках кожная дыплямацыя, ці агітацыя ў тым ліку і савецкая. Бо заданьнем **кожнай** дыплямацыі ёсьць знайсьці спосаб і апраўданьне сваіх чынаў.

Дык з такімі людзьмі, якія ар'ентацыю на чужыя сілы ставяць вышэй за ар'ентацыю на свой беларускі народ, кансалідацыя немагчыма. Гэта адносіцца ня толькі до камінтэрнаўскай ар'ентацыі, але і да ўсякай іншай.

Значыць, каб наступіла сапраўдная кансалідацыя, патрэба двух варункаў:

1) **адна ідэя,** а гэтай ідэяй ёсьць ар'ентацыя на свой беларускі народ і яго найвышэйшую Ідэю;

2) **Незалежнасьць ад чужых сілаў** і ўважаньне сваей палітычнай ар'ентацыі не за догму, але за тактыку, якую заўсёды можна зьмяніць для дабра беларускага народу.

На такіх асновах кансалідацыя і магчыма і патрэбна.

### З БЕЛАРУСКАГА НАВ. Т-ВА.

18. V. сёлета у Літаратурна-мастацкай сэкцыі Таварыства адбылася навуковая зборка, на якой малады беларускі навуковы дасьледчык мгр. Хв. Ільляшэвіч прачытаў лекцыю на тэму „Настаўнік і яго вучань“ (Нарыс біографіі мастака XVIII ст. А. Грушэцкага).

26. траўня гэтая лекцыя была прачытана ў сэкцыі Гісторы Мастацтва Т-ва Прыяцеляў Навук у Вільні (польскага).

### ІЗНОЎ ВЫСЯЛЕНЬНЕ.

Як нас паведамляюць, 15 траўня пастановай адміністрацыйных уладаў высялены із Стоўпцаў беларус уніяцкі сьвяшчэньнік Гарошка. А. Гарошка паза душпастырствам у Стоўпцах ня вёў ніякай грамадзка-беларускай працы.

### ЯШЧЭ АБ „ЛІТУАНІЗМАХ“.

На наш артыкул „Аб літуанізмах Адама Станкевіча“, зьмешчаны ў папярэднім нумары „Б. Фронту“. кс. А. Ст. на бачынах „Калосься“ (кн. 2. 1939 г.) даў адказ, у якім заяўляе, што дужа ўдзячны нам за фаховыя ўвагі, аднак не з усімі нашымі ўвагамі згаджаецца — і далей піша аб „літуанізмах“, якія не заўсёды зьяўляюцца літуанізмамі; а рэдакцыя „Калосься“ надрукавала заяву, ў каторай бароніць кс. Ад. Станкевіча, артыкул-жа зьмешчаны ў „Б. Фронце“ заве „сапсутым мясцамі някультурнымі і дэмагагічнымі выпадамі“, супроць чаго змушана пратэставаць.

На ўсё гэта адказваем, што самі чытачы няхай асудзяць, ці ў нашым артыкуле былі „някультурныя і дэмагагічныя выпады“. На віленскім грунце пасьля зьяўленьня нашага артыкулу стварылася прахананьне, што кс. Ад. Ст. узяўся не за сваю работу, бо выказаў нястачу філёлёгічнага прыгатаваньня. Прыгэтым трэба адзначыць, што выказваньне чужых памылак і пахібаў пры помачы навуковага апарату, нідзе не ўважаецца за някультурныя і дэмагагічныя выпады. Гэта адно. А другое: спытаемся рэдакцыі „Калосься“, якую **мэту** мае друкаваньне такіх „літуанізмаў“ якія не зьяўляюцца літуанізмамі ў беларускай мове ды яшчэ географічных назоваў? Навуковай мэты, артыкул ясна што ня мае, бо, як мы сказалі кс. Ад. Ст. ня ёсьць філёлёгам, да літаратуры артыкул не належыць, тымболей ня мае нічога супольнага з мастацтвам, дык якая мэта? Няўжо толькі **палітычная?** Калі так, дык гэтакі падыход да справы ня толькі шкодзіць навуцы, але і беларускаму народу.

### З БЕЛАРУСКАЕ ПРЭСЫ.

„Шлях М.“ (25. V) зьмясьціў цікавы і актуальны артыкул пад заг. „На музычна-мастацкай ніве ў БССР зусім дрэнна“. У артыкуле сказана, што „Савецкая Беларусь, як „самастойная“ і „незалежная“ дзяржава, павінна была за 20 год існаваньня мець даволі вялікія здабычы на ніве музычна-мастацкай. Але, нажаль, гэтага няма. Перашкаджалі разьвіцьцю беларускай культуры агулам, а гэтым самым і музычнаму мастацтву, як цьвердзяць бальшавікі, „трыжды прэзрэнныя ворагі народу, розныя нацдэмы і нацфашысты“. А паводле нашае думкі, дык перашкаджалі разьвіцьцю беларускай культуры іменна розныя бязупынныя „чысткі“, якія сыстэматычна праводзіліся чэкістамі ў радох беларускай інтэлігенцыі. І вось з прычыны вынішчэньня працаўнікоў, ня было каму энэргічна і сыстэматычна разьвіваць беларускую культуру.

Колькі-ж талентаў вышаўшых з гушчаў беларускага народу ў самую пару свайго расцьвету было замарожана і зьнішчана фізычна маскоўскімі акупантамі! Колькі іх разьвіталася (можа назаўсёды) з Бацькаўшчынай - Беларусяй і пандравала ў далёкія краіны савецкай Поўначы на цяжкія работы і павольнае ўміраньне! А колькі разсталося з маладым жыцьцём тут-жа на Бацькаўшчыне ў падвалах Менскага і Віцебскага ГПУ!...

Гляньма на меншыя народы, як Літва, Эстонія, Латвія і інш., якія за пару гадоў свайго незалежнага жыцьця ў тысячу разоў больш змаглі зрабіць для разьвіцьця сваей культуры, чым „незалежная“ Беларусь за дваццаць год. А гэта тлумачыцца тым: гэныя дзяржавы, што зрабілі ўчора, ня нішчуць сягоньня, а далей будуюць, твораць, разьвіваюць, а дзеля гэтага скарбніца іхняй народнай культуры з кожным днём узбагачваецца і творыць вялікі народны фонд. У Савецкай Беларусі справа прадстаўляецца адваротна“.

Артыкул гэты трэба прачытаць тым, хто з энтуз'язмам глядзіць на ўсход, думаючы, што там будуецца „беларускі дом“.

### РОЗНЫЯ ВЕСТКІ.

**Беларускі Канцэрт.** У суботу 3 чэрвеня ў залі Сьнядэцкіх УСБ Бел. Студ. Саюз ладзіць Вялікі Канцэрт з учасьцьцем тэнара М. Забэйды-Суміцкага і хору Белар.

(Далей на адвароце).

---

дай у Пазнані. Якія будуць адносіны новага ваяводы да беларускай справы — пакуль-што няведама. Якія былі адносіны ваяводы Бацянскага, ведаем вельмі добра. За яго ўрадаваньня наступіла ліквідацыя Бел. Інстытуту Гаспадаркі і Культуры, Т-ва Беларускае Школы, Беларускага Гаспадарскага Зьвязу, Беларускага Нацыянальнага Камітэту і іншых. Якія прычыны выклікалі зьмену на становішчы віленскага ваяводы, ходзяць розныя чуткі. Адначасна з выездам ваяводы Бацянскага пачаліся ўзнаўленьні закрытых літоўскіх арганізацыяў. А што будзе з беларускімі?

**Раптоўнае ўсведамленьне.** У апошніх часох зьяўляемся сьведкамі арганізацыйных натугаў на нашых землях гэтак званых праваслаўных палякаў. Ад пачатку сёлетняга году, як на каманду, па ўсіх амаль паветавых гарадох адбыліся арганізацыйныя зьезды раптам нацыянальна ўсьведаміўшыхся праваслаўных. Цікава прыгэтым, што ўсьведамленьне праваслаўных наступіла якраз у кірунку польскім! На зьезьдзе выбіраліся ўлады, выносіліся ўсюды амаль аднолькавыя што да зьместу і формы рэзалюцыі, высылаліся тэлеграмы. Трэба адцеміць зусім малое зацікаўленьне гэтымі імпрэзамі тых, для каго цэлыю гэту акцыю пачалі — іменна шырокіх гушчаў праваслаўнага насельніцтва. Дзеля гэтага прыходзілася кіраўнічыя функцыі абымаць пераважна самым ініцыятарам (Наваградак, Баранавічы, Стоўпцы і інш.). Аб тым, хто заініцыяваў цэлую акцыю можам даведацца з чыста „польскіх“ прозьвішчаў „кіраўнікоў“ гэтых арганізацыяў, як напр.: Зданов, Карузін, Курбыко, Морозов, Сеглюк і т. п.

---

да працы. Вось-жа, каб гэтая праца давала належныя рэзультаты, трэба як мы зацемілі на пачатку, каб яна вялася каапэратыўнымі, злучанымі сіламі. Каапэратыўны спосаб працы патрабуе пляновасьці ў ёй. Кожны сьведамы беларус на вёсцы павінен ведаць, што ён зьяўляецца сябрам вялікай беларускай сьвядомай грамады, а не бяспомачнай адзінкай, ня маючай апірышча. З гэтай мэтай канечне трэба, каб вясковыя інтэлігенты падтрымлівалі між сабой сувязь і наагул блізкія адносіны. Трэба прызнацца, што ня толькі сувязь вёскі з горадам ёсьць нездаваляючай, але нават двух суседніх вёсак з сабой. Сьведамыя адзінкі аднае вёскі часта нават ня ведаюць, што дзеіцца за яе плотам. Гэта зусім ненармальнае зьявішча. Вясковая інтэлігенцыя павінна старацца наладзіць з сваімі суседзямі бліжэйшыя зносіны. Супольныя гутаркі, нарады зьяўляюцца проста неабходнымі ў яе нацыянальна-грамадзкай працы. Гэтыя зносіны перш за ўсё могуць спрычыніцца да зблiжэньня вясковых працаўнікоў і створаць з іх адну сям'ю. Дагэтуль выходзіла так, што пасобныя вясковыя адзінкі зьвязваліся ў найлепшым прыпадку з горадам і нічога ня ведалі, на прыклад, што дзеіцца ў іхняй воласьці.

Працуючы над самаадукацыяй і стварыўшы, шляхам навязаньня цесных зносінаў, адну сям'ю, вясковая інтэлігенцыя запраўды будзе прадстаўляць сабой сілу, каторая патрапіць зрухнуць з месца масу.

У сваей працы над пашыраньнем нацыянальнае сьведамасьці і веды яна павінна кіраваць, як сказана, плянам. Об'ектам яе дзеяньня павінна быць уся нясьведамая або напоўсьведамая вясковая маса. Але інакш трэба падходзіць, скажам, да дзяцей, інакш да дарослай моладзі або старэйшых. Найбольш удзячнай можа быць праца над дзяцьмі. Іх можна дасканальна заахвоціць навучыцца чытаць, пісаць пабеларуску, беларускіх вершаў, пашыраць між імі спартовыя дзіцячыя гульні. З гэтага гледзішча іх лёгка можна заахвоціць нават да дабравольнага спаборніцтва, даючы напр. выдатнейшым колькі-грашовыя або іншыя прэміі. Агульна трэба зацеміць, што сярод нашай дзіцячай грамады на вёсцы не вядзецца ніякая беларуская літаратурная праца. А гэта ня толькі вялікі мінус але проста праступак. З усей пэўнасьцю можна сказаць, што каліб вясковая інтэлігенцыя зьвярнула ў гэты бок сваю ўвагу, карысныя рэзультаты яе працы адчулісяб ужо за некалькі гадоў. Ня можна-ж лічыць, што ўсё ў парадку, калі ў Вільні выходзяць два дзіцячыя дадаткі да газэтаў, якія дзе-ня-дзе трапляюць на вёску.

Дарослая моладзь—гэта могуць быць таварышы вясковых інтэлігентаў. Натуральна праца над іхнім асьведамленьнем вымагае іншага падыходу. Але трэба сказаць, што ніякай асаблівай літаратуры тут вучыцца ня трэба. Само выкарыстаньне таварыскіх адносінаў можа лёгка спрычыніцца да іхняга асьведамленьня і навучэньня, тым больш, што гэта моладзь, якая бясврэчна шукае выхаду з таго цяжкога заблытанага палажэньня ў якім знаходзіцца.

Найтруднейшай можа быць праца над асьведамленьнем старэйшых, або і зусім старых. Аб іх такжа ня можна забывацца. Праўда, гэта можа быць матар'ял надта няўдзячны. Гэта пераважна людзі, якія хочуць, каб іх слухалі і ад іх вучыліся. Сапсутыя часамі расейшчынай або польшчынай, відзеўшыя шмат чаго ў жыцьці, яны ўжо зложыліся жыцьцёва і духова і іх трудна бывае зрухнуць. Аднак ня скажу каб да іх ня можна было дступіцца. Часам пачутая беларуская песьня з грамафоннае пліткі можа іх узварушыць да сьлёз, чаго я сам быў сьведкам. Часамі можа выклікаць гэткі-ж рэзультат прачытаны кімсь беларускі верш, або апавяданьне...

Дык наша інтэлігенцыя мае проста бязьмежнае поле да працы ў сваім найбліжэйшым вясковым асяродзьдзі. Да працы гэтай трэба безадкладна прыступіць, бо няма часу на чаканьне. Няхай кожнаму нашаму вясковаму інтэлігенту будзе тут клічам: „Ніводнага нясьведамага і цёмнага беларуса на вёсцы“!

**М. Ш.**

# На міжнародным грунце

## АГУЛЬНЫ АГЛЯД.

У другой палавіне траўня сьвет далей дзяліўся на два блёкі, з каторых адзін, „дэмакратычны“ або як цяпер называюць, „мірны“, гуртаваў пад павадырствам Англіі свае сілы і здабываў новых саюзьнікаў, а другі, фашыстоўскі або „ваенны“, цэмэнтаваўся ўнутры, падпісваючы вайсковыя саюзы. Найболей увагі зварочвала на сябе ў гэтым часе павольнае, але сыстэматычнае збліжаньне Саветаў да г. зв. мірнага, антынападаючага блёку. Гэтае збліжаньне, якое ў хуткім часе (быццам 6.VI) мае перайсьці ў фармальнае далучэньне або нават і саюз з Англіяй і Францыяй, можа радыкальна зьмяніць уклад палітычных сіл на ўсім сьвеце і можа паставіць сьвет перад вялікімі вырашэньнямі, аб чым мы пішам на іншым месцы.

Другім важным фактам было завастрэньне ўжо і так вострых адносін паміж Польшчай і Нямеччынай на грунце Гданска, дзе адбываліся выступленьні нямецкага насельніцтва процiў польскіх мытніцкіх урадоўцаў і забойства аднаго немца польскім шофэрам, што выклікала вельмі вострыя напасьці на Польшч нямецкай прэсы. Трэцім фактам было падпісаньне вайсковага саюзу паміж Ням. і Італіяй у Бэрліне, (аб гэтым саюзе мы пісалі ў папярэднім нумары „Бел. Фронту“); чацьвертым—трыўмфальная дэфіляда паўстанцаў у Мадрыце, у якой бралі ўдзел італьянскія і нямецкія аддзелы; пятым — апублікаваньне Англіяй г. зв. „Белай кнігі“, або дакумэнту, паводле якога ў Палестыне мае ўтварыцца арабская дзяржава з жыдоўскай меншасьцяй і гэтым адымаецца ад жыдоў іхная надзея на ўтварэньне ў Палестыне жыдоўскай дзяржавы. Апроч гэтага былі стараньні Нямеччыны, каб прыцягнуць да ням.-італь. вайсковага саюзу Японіі, але пакульшто без рэзультату (Японія ня хоча ўпутвацца ў эўрапэйскія справы, бо мае свае); імкненьні Фінляндыі і Швэцыі ўкрапіць Аляндскія астравы на Балтыцкім моры, процiў чаго пратэстуюць Саветы; крывавыя сутычкі мангольска-савецкіх аддзелаў з манджурска-японскімі на Далёкім Усходзе, у гэтых сутычках бяруць удзел танкі і аэрапляны. Зьвярнула на сябе ўвагу такжа маніфэстацыйная кантроля заходніх украпленьняў, праводжаная Гітлерам і Муссолінім. Польская прэса („Polonia“) піша, што Гітлер праз свае агледзіны заходняй граніцы (лініі Зыгфрыда) здрадзіў свой стратэгічны плян, іменна: Нямеччына аставіць на Захадзе толькі невялікую часьць сваіх дывізыяў, патрэбных дзеля абароны лініі Зыгфрыда, а ўсе свае сілы скіруе на Ўсход, процiў Польшчы і Саветаў. Кажуць яшчэ, што ў такім прыпадку выступіць процiў Саветаў і Японія. Значыць, наступленьне Нямеччыны скіравалася-б не на захад, а на ўсход.

Усе цяпер згодны ў тым, што вайна немінучая, што яна прыбліжаецца шпаркім тэмпам, толькі ня ведама, **калі** яна пачнецца і **хто** ў ёй возьме удзел, або лепш кажучы, хто яе пачне. Інтэрасуе такжа ўсіх, **дзе** бухне першае полымя сусьветнага пажару. Найболей паказваюць на Гданск, кажучы, што ён можа адыграць ролю новага Сараева. Прадказванага плебісцыту ў Гданску ня было ані 21, ані 28 траўня, відаць, апрацаваны іншы спосаб. Польская прэса піша, што гданска-нямецкае насельніцтва правакуе Польшч, каб яна заняла Гданск, даючы гэтым Нямеччыне прычыну да выступленьня ў абароне Гданска.

## НЯМЕЦКІЯ ПРАПАЗЫЦЫІ ПОЛЬШЧЫ.

Аб нямецкіх прапазыцыях, робленых Польшчы, з мэтай супольнага паходу процiў Саветаў, мы пішам у „Зацемках з жыцьця“, тут хочам толькі дапоўніць іх. Аб гэтых прапазыцыях „Кур. Віл.“ (28.V) так піша: Патёмкін у часе сваёй гутаркі з мін. Бэкам сказаў: „Сталін і Молатаў вельмі хацелі-б даведацца падрабязна аб прапазыцыях Гэрынга“. На гэта мін. Бэк адказаў: „Прапазыцыя была супольнага заатакаваньня Саветаў. Украіна да Дняпра і Беларусь былі-б прызнаны за Польшчай, рэшта Украіны сталася-б незалежнай дзяржавай пад нямецкім пратэктаратам. На ўсім прасторы даўнейшыя польскія земляўласьнікі атрымалі-б сплату (odszkodowanie). Каўказ меў адыйсьці пад супольны польска-нямецкі пратэктарат“.

Новым у гэтым пляне ёсьць для нас праект аддачы Украіны аж да Дняпра пад уладу Польшчы і супольны пратэктарат над Каўказам. Аб тым, што Нямеччына хоча Беларусь аддаць Польшчы, а сабе ўзяць Украіну і Каўказ, мы пісалі ўжо ў мін. годзе. Польская прэса піша, што гэтая аддача была толькі абяцана дзеля таго, каб Польшч заахвоціць да супольнага паходу на Саветы, а потым наступілаб ліквідацыя Польшчы.

## АНГЛІЯ — САВЕТЫ.

Трэба прызнаць, што з усіх палітычных падзеяў апошніх дзён найболей зварочвалі на сябе ўвагу перагаворы паміж Англіяй і Саветамі аб заключэньні пакту ўзаемнай дапамогі. І гэта зразумела, бо, як мы ўжо адзначалі, далучэньне Саветаў да „дэмакрацыяў“ захаду мяняе ўклад палітычных сіл на сьвеце. Прасьледзім гэтыя перагаворы ад іх пачатку.

Англія, баючыся, што бар'ер Польшч-Румынія ня выдзяржыць нямецкага націску на ўсход, пару месяцаў таму назад зьвярнулася да Саветаў з прапазыцыяй пакту ўзаемнай дапамогі. Саветы, зразумеўшы, што яны для Англіі патрэбны, пачалі ставіць розныя варункі, як загвapантаваньне сваіх граніц ня толькі на захадзе але і на ўсходзе, пакту ня толькі з Англіяй, але з усімі загрожанымі Нямеччынай дзяржавамі, адным словам жадалі **поўнага і суцэльнага саюзу** ўсіх дзяржаў, уваходзячых у процiўфашыстоўскую коаліцыю. На падставе гэтага саюзу ўсе магліб змагацца за аднаго, а адзін за ўсіх. Англія спачатку не хацела вязацца гэтакім саюзам з Саветамі і браць на сябе такія забавязаньні, каб аж бараніць Саветаў, скажам, на Далёкім Усходзе, калiб на іх напала Японія. Таксама не хацелі браць на сябе забавязаньняў Саветы, хочучы мець вольную руку ў будучых падзеях, аб чым мы пісалі ў папярэднім нумары „Б. Фронту“ — і ў рэзультаце англ.-савецкія перагаворы пачалі рвацца. Тады на помач пасьпяшыла Францыя і запрапанавала такую плятформу перагавораў і будучага пакту: 1) Англія, Францыя і Саветы зараз-жа падаюць сабе помач у прыпадку напасьці на адну з гэтых дзяржаў, 2) неадкладная нарада гэтых дзяржаў у прыпадку напасьці на якую іншую дзяржаву ў Эўропе, 3) аказаньне помачы дзяржавам, якіх тэрыторыі загвapантаваны, толькі тады, калі яны гэтага самі зажадаюць, 4) абаронны характар саюзу і захаваньне пакту Лігі Народаў. Гэтыя пункты былі даручаны Саветам перад Сёмухай. Што адкажуць Саветы?

Калiб дайшло да поўнага саюзу, Нямеччына доўга не чакалаб. Яна не маглаб дапусьціць да таго, кад Англія яе акружыла і палітычна і гаспадарча і паставіла яе на калені, Нямеччына разам з Італіяй пайшлаб ламаць збудаваны навакол іх бар'ер. У якім кірунку наступіўбы ўдар? Найхутчэй што ва ўсходнім — і тады спраўдзілісяб прадказаньні польскае прэсы.

Што датыча Англіі, дык памылковы такі пагляд, што яна хоча вайны. Не, Англія вайны ня хоча, яе мэта такая: акружыць Нямеччыну з усіх бакоў, сьціснуць яе і палітычна і гаспадарча, паказаць сваю сілу, а тады запрапанаваць перагаворы, абяцаючы карысныя варункі... можа нават коштам іншых... Ці Нямеччына на гэта пойдзе? Нам здаецца, што не. А тады іншага выхаду няма, як толькі вайна.

## НЯМЕЦКА-ІТАЛЬЯНСКІ САЮЗ.

Падпісаньне фармальнага саюзу паміж Ням. і Італіяй не дало, праўду кажучы, нічога новага, а толькі пацьвярдзіла тое, што існавала ўжо здаўных. Важным у гэным саюзе ёсьць пацьвярджэньне вечнасьці граніц паміж Ням. і Італіяй (Альпы), нападаюча-абаронны характар саюзу і аўтаматычнае яго дзеяньне ў выпадку якой-колечы небясьпекі ці нападу. Тайныя пункты маюць азначыць формы цеснай каапэрацыі на выпадак вайны. Пакт заключаны на 10 гадоў. Падпісаньне пакту адбірае ад Англіі надзею адцягнуць Італію ад Нямеччыны, абедзьве дзяржавы будуць ісьці разам.

Паводле вестак, якія надыходзяць з Парыжа, цяпер з Ням. у Італію едуць цягнікі з уваружэньнем, здабытым на Чэхаславаччыне, як танкі, артылерыя, кулямёты і інш. Гэтага ўваружэньня мае хапіць Італіі на цэлых 15 дывізыяў, якія яна рыхтуе на будучы канфлікт.

## „БЕЛАЯ КНІГА“.

Англійскі ўрад абвесьціў, а парлямэнт пацьвердзіў „Белую кнігу“, або ўрадавы праект ў справе Палестыны. Гэты праект мае вялікае палітычнае значэньне, бо перачырківае ўсе жыдоўскія надзеі на стварэньне жыдоўскай дзяржавы ў Палестыне і выяўляе англійскія пляны на Блізкім Усходзе.

Зьмест „Белай кнігі“ прадстаўляецца ў галоўных пунктах гэтак:

На працягу 10 гадоў Палестына мае стацца незалежнай дзяржавай пад апекай Англіі; Палестына мае быць дзяржаваю арабаў і жыдоў; улада паступова будзе пераходзіць у рукі мясцовага жыхарства, а пасьля 5 гадоў будзе абвешчана канстытуцыя (дзяржаўны статут) Палестыны; гвapантуецца свабода веравызнаньня і інтарэсы чужых дзяржаў; на працягу першых 5 гадоў дапушчаецца жыдоўская іміграцыя ў колькасьці 75 тысяч, а потым забараняецца зусім; уканцы англійскі ўрад заяўляе, што ня мае намеру тварыць у Палестыне ніякай жыдоўскай дзяржавы.

Такім парадкам „Белая кніга“ перачыркнула адным махам дэклярацыю Бальфура аб утварэньні жыдоўскай дзяржавы. Дагэтуль Англія паддзержывала жыдоў процiў арабаў, бо гэтага вымагалі інтарэсы імпэрыі і сувязь англійскіх кругоў з жыдоўскімі фінансістамі, але калі пабачыла, што палестынская справа дражніць арабаў і ўвесь мазулманскі сьвет, крута павярнула ў бок арабаў і перастала апякавацца жыдамі. Англія ня можа мець у будучай вайне ворагаў блізка Суэскага каналу, г. зн. арабаў — і дзеля гэтага пайшла на ўступкі.

## „ДЭФІЛЯДА ПЕРАМОГІ“ Ў МАДРЫЦЕ.

Адкладаная аж трэйчы „дэфіляда перамогі“ войска ген. Франко ў Мадрыце адбылася ўрэшце 19.V. Брала ў ёй удзел каля 220 тысяч салдат гішпанскай арміі, у гэтым ліку 10 тысяч італьянскіх і некулькі тысяч нямецкіх. „Дэфіляда перамогі“ была з аднаго боку трыумфам ген. Франко над рэспубліканцамі, а з другога боку азначала скорую высылку італьянскіх і нямецкіх аддзелаў на бацькаўшчыну, бо ген. Франко быў абяцаўшыся Англіі і Францыі выслаць чужыя аддзелы зараз пасьля „дэфіляды“. Адклад „дэфіляды“ ўзбудзіў падазрэньні Англіі і Францыі, што італьянскія і нямецкія аддзелы астаюцца ў Гішпаніі ня дзеля „дэфіляды“, а дзеля іншай прычыны, іменна, каб ударыць у адпаведны час на Гібралтар і на Францыю. Цяпер-жа гэтыя падазрэньні разьвеяліся і нават былі гутаркі аб скорым атрыманьні Гішпаніяй ад Англіі і Францыі пазыкі на адбудову зьнішчанай краіны. Аднак гэтыя гутаркі не апраўдаліся, бо з Гішпаніі прыйшлі весткі, што ўсёжтакі ген. Франко моцна зьвязаны з Нямеччынай і Італіяй... Доказам гэтай сувязі ёсьць факт, што італьянскія і нямецкія аддзелы аставілі ў Гішпаніі бадай усё сваё ўваружэньне, а галоўна асталася ў Гішпаніі нямецкая процiўаэрапляннная артылерыя, якая зьяўляецца нямецкім сакрэтам і якая зьбіла каля 400 рэспубліканскіх аэрапланаў. Да тых гармат немцы не дапускалі нікога, баючыся здрадзіць сакрэт, а цяпер аставілі іх у Гішпаніі... Значыць, маюць пэўнасьць, што Гішпанія гэтых гармат і наагул усяго ўваружэньня процiў іх не паверне.

У Гішпаніі цяпер ідзе нутраное змаганьне за ар'ентацыю; уплывовая „фалянга“ (гішпанскія фашысты) і наагул маладзяж стаіць за саюз з Нямеччынай і Італіяй, а старэйшае пакаленьне, асабліва генэралы, стаяць за нэўтральнасьць. Апошнія весткі гавораць аб спробах рэарганізацыі гішпанскага ўраду і быццам уплывы „фалянгі“ бяруць верх. Да восені, магчыма, выясніцца становішча і Гішпаніі.

## АПОШНЯЯ ВЕСТКА.

**Молатаў у сваёй прамове 31.V адкінуў англійска-францускія прапазыцыі, як мала гвapантуючыя савецкія інтарэсы. Саветы жадаюць поўнай гвapанцыі, поўнай узаемнасьці і поўнага саюзу.**

Значыць, палажэньне астаецца няясным, так як і дагэтуль. Перагаворы, відаць, зацягнуцца і будуць трываць, пакуль Англія не здаволіць усіх савецкіх жаданьняў.

Рэдактар-выдавец:
**мгр. В. Гадлеўскі.**

---

Студ. Саюзу пад кіраўніцтвам Р. Шырмы. Пачатак Канцэрту ў гадзіне 20,30.

**Бел. паштоўкі** Выданы нядаўна фотаграфічныя адбіткі твораў беларускіх мастакоў: П. Міpановіча, П. Сергіевіча і Драздовіча.

Цана паштовак 30 гр. за штуку.

Паштоўкі прадстаўляюцца вельмі эстэтычна.

**Новыя кніжкі:** Др. Я. Станкевіч. Гісторыя беларускага языка. Цана 35 гр.

Haspadarski Zbornik, кн. II. Цана 25 гр.

Гаспадарскі Зборнік, кн. III. Цана 25 гр.

Biełaruskija (Krywickija) narodnyja pieśni i kazki, kn.II. Цана 45 гр.

Можна купляць усюды. Галоўны склад у Беларускай Кнігарні „Надзея“, Вільня, Астрабрамская 1.

Апроч гэтых кніжак ў Кнігарні „Надзея“ прадаюцца гадавікі беларускага пчалярскага часапісу *„Беларуская Борць“* з 1935, 1936 і 1937 гадоў. Цана кожнага гадавіка па 1 зал.

---

## БЕЛАРУСЫ Ў ЛАТВІІ.

Паведамляюць нас з Латвіі, што ў Рызе дня 6.V. захадамі Бел. Вучыцельскага Саюзу быў зладжаны бел.спэктакль. Ставілі „Паўлінку“ Я. Купалы. Зацікаўленьне спэктаклям было надзвычайнае — было каля 1.500 чалавек! Перад прадстаўленьнем быў рэфэрат праф. Брача аб суадносінах латыска-беларускіх у мінуўшчыне і сучаснасьці, такжа быў канцэртны аддзел, у якім сьпявачка Дзямідава адпяяла некалькі беларускіх і латыскіх песьняў-

Redaktor i wydawca: mgr. W. Godlewski. Druk. M. Bogatkiewicza i B. Trućko. Wilno, ul. Ad. Mickiewicza 22-a, m. 30.

BIBLJOTEKA w Wilnie. im. Wróblewskich